Падпіска на «НВ» на кастрычнік заканчваецца 27 верасня. Не спазніцеся!

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 75 (3918)
26 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

Да ўвагі!
Хто хоча
набываць газету
ў офісе рэдакцыі —
чакаем!

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# Закрыть Америку!

**Есть у Михаила Евграфовича Салтыкова-Щедрина “Сказка о ретивом начальнике”. Сильно подозреваю, что сейчас ее приравняли к экстремистской литературе, но от этого смех классика в адрес начальственной тупости не перестал быть актуальным.**

**Сюжет простой: в некотором царстве, в некотором государстве считалось, что чем больше начальник вреда делает, тем больше Отечеству пользы принесет. И вот вредил такой ретивый начальник, вредил, а вверенный край никак не процветает. И тогда он собрал на совет самых главных мерзавцев, чтобы выработать программу действий. И те посоветовали: “Необходимо снова закрыть Америку!”**

**Кто посоветовал Александру Лукашенко “снова закрыть Америку”, я не знаю. Но когда в январе 1994 года 42-й президент США Билл Клинтон приехал с визитом в Минск, это означало, что самая влиятельная страна мира, денежный центр, а главное — центр самых современных технологий и идей протягивает нам руку дружбы. Потому что просто так президенты США в визиты не ездят. Это важный знак, большой аванс, это шанс, который нельзя упустить.**

**Но потом к власти в Беларуси пришел Александр Лукашенко и начал все делать по-своему. Как в той сказке: правил, правил, а процветания в Отечестве нет… Итогом нашего “мозгового штурма” стал по-настоящему грандиозный международный скандал.**

**Если вспомнить те события, то они, конечно, больше похожи на гротескные сюжеты Салтыкова-Щедрина. Но все происходило в реальности.**

**В 1998 году ряду послов (в том числе послу США) было предписано срочно освободить занимаемые резиденции в Дроздах. Мол, канализация подтекает. Послы оказались людьми непонятливыми, изъявили готовность потерпеть, остаться в резиденциях и даже оказать помощь в ремонте. Но все-таки канализация чрезвычайно беспокоила белорусского лидера, он был непреклонен. Вскоре у дипломатов отключили воду, электричество, телефонную связь… И послам ничего иного не оставалось, как покинуть Минск, со скандалом вернувшись в свои столицы.**

**Кстати, именно тогда в отношении белорусских руководителей впервые были введены визовые санкции.**

**Постепенно все, естественно, поулеглось, с “квартирным вопросом” разобрались. Но потом у нас случились такие выборы, что после них цивилизованные страны вновь не пожелали видеть у себя ряд высокопоставленных чиновников белорусского государства. А также не захотели, чтобы некоторые наши предприятия, особо важные для удержания у власти действующего режима, работали с их банками и фирмами.**

**Мы закусили удила и почему-то особенно обиделись на Америку. Дипломатам, работавшим в американском посольстве в Минске, пришлось вновь паковать чемоданы, потому что разрешение на работу получили всего пять человек. И понеслось…**

**Смешно, конечно, звучит, но Беларусь фактически объявила США “холодную войну”. В Вашингтоне это взяли на заметку, хотя наверняка улыбнулись. Да и как еще реагировать, когда моська начинает лаять на слона (еще один сюжет из классика, оказавшийся актуальным)?! К тому же моська, которая не может похвастаться даже мировыми запасами торфа.**

**Белорусская власть упорно рассказывала, что враждовать с США — это в наших интересах. Что нам помогут Россия, Китай, Венесуэла и тому подобные. Вот только все китайское у нас почему-то плохо работает, хотя стоит уже недешево. Венесуэла так “расцвела”, что в стране дошло до дефицита туалетной бумаги. А Россия на примере Украины ясно показала, какую плату хочет за свою помощь…**

**В общем, искала наша власть “пятую колонну”, а нашла пятый угол. И теперь ничего иного не остается, как по-новой открывать Америку.**

**Премьер-министр Михаил Мясникович в эти дни находился в Нью-Йорке, где проходил первый белорусско-американский инвестиционный форум.**

**По иронии судьбы вновь открывать Америку поехал тот самый Мясникович, который был главой Администрации президента, когда американского посла выкидывали из его резиденции! Тот самый, который был убежден, что канализация важнее цивилизованного лица!**

**Сейчас Мясникович в США приехал душкой, почти европейцем, рассказывал, как легко и просто работать в Беларуси, как выгодно вкладывать сюда деньги.**

**И это после того, как, в первый раз прилетев в нашу страну, едва ступив с трапа самолета на белорусскую землю, гражданин США Эммануил Зельцер был арестован нашим КГБ и оказался в белорусской тюрьме.**

**И это после того, как у гражданина США Марата Новикова просто отобрали успешно работавшую фабрику “Коммунарка”.**

**Мясникович уговаривал американцев работать с нами, хотя не создано даже элементарной правовой базы для такого сотрудничества. Между Беларусью и США нет ни соглашения о взаимной защите инвестиций, ни соглашения об избежании двойного налогообложения, ни даже договора об оказании правовой помощи. Мы же 20 лет воевали с Америкой, искали в Вашингтоне врагов, не до того было.**

**20 лет упущенных возможностей, 20 лет испорченных отношений, 20 бессмысленных лет самоизоляции от развитого мира! А каков итог? Присмотритесь внимательно: после украинских событий у Александра Лукашенко глаза человека, пославшего любовное послание не по тому адресу. Он рассказывает, что все хорошо, все спокойно, все под контролем, но будто заговаривает беду.**

**Видимо, кто-то в окружении Лукашенко внимательно читал Салтыкова-Щедрина, коль подсоветовал ему на взлете карьеры закрыть Америку. Впрочем, как и многое другое, что первый белорусский президент воплотил в жизнь и что не позволяет ему смотреть в будущее уверенно. Цитирую все ту же “Сказку о ретивом начальнике”.**

***“А программа наша вот какова. Чтобы мы, мерзавцы, говорили, а прочие чтобы молчали. Чтобы наши, мерзавцев, затеи и предложения принимались немедленно, а прочих желания чтобы оставлялись без рассмотрения. Чтоб нам, мерзавцам, жить было повадно, а прочим всем чтоб ни дна, ни покрышки не было. Чтобы нас, мерзавцев, содержали в холе и в неженье, а прочих всех — в кандалах. Чтобы нами, мерзавцами, сделанный вред за пользу считался, а прочими всеми, если бы и польза была принесена, то таковая за вред бы считалась. Чтобы об нас, об мерзавцах, никто слова сказать не смел, а мы, мерзавцы, о ком вздумаем, что хотим, то и лаем! Вот коли все это неукоснительно выполнится, тогда и вред настоящий получится”.***

**Разве не про нас?**

МИНСК—КИШИНЕВ

# Встречали с воинскими почестями

**Александр Лукашенко** два последних дня провел в Кишиневе, куда направился с официальным двухдневным визитом по приглашению президента этой страны **Николае Тимофти.**

Забавно, что начало встречи двух президентов было скомкано. Как сообщают молдавские СМИ, несмотря на то, что рабочие более 30 минут подметали красный ковер для гостя, в момент, когда Александр Лукашенко вышел из автомобиля, сильный ветер всю их работу испортил.

После официальной встречи президентов наедине было подписано несколько двусторонних соглашений, затем состоялась пресс-конференция. В первую очередь журналистов интересовало, как белорусский лидер, союзник России, относится к тому, что Молдова взяла курс на ЕС. Как выяснилось, хорошо относится и уважает этот выбор.

Принимали Александра Лукашенко в Кишиневе с воинскими почестями, а ужин в честь высокого гостя прошел в знаменитых подвалах Криково.



ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## У Беларусі знізіўся сярэдні заробак

*У Беларусі ўпершыню сёлета знізіўся сярэдні заробак. У жніўні ён склаў 6 мільёнаў 360 тысяч рублёў.*

Як адзначае БелаПАН, на працягу ўсяго бягучага года назіралася тэндэнцыя пастаяннага павелічэння сярэдняга заробку. А ў жніўні ўпершыню адбылося зніжэнне (на паўтара працэнта) сярэдняга заробку ў параўнанні з мінулым месяцам. Варта адзначыць, што такая тэндэнцыя назіраецца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і ў Мінску.

Эксперты звязваюць гэта з тым, што напрыканцы ліпеня ўрад прыняў пастанову „Аб аплаце працы работнікаў”, у адпаведнасці з якім павелічэнне заробкаў на дзяржаўных прадпрыемствах было пастаўлена ў залежнасць ад тэмпаў росту вытворчасці працы. Так што можам убачыць і не такое падзенне.

СКАНДАЛ

## Ці сядзе ў літоўскую турму галоўны следчы Мінска Дзмітрый Канаплянік?

На гэтым тыдні літоўскія СМІ паведамілі пра затрыманне на мяжы 21 верасня (у мінулую нядзелю) “высокапастаўленага супрацоўніка праваахоўных органаў Беларусі” разам з жонкай. Згодна з паведамленнем, у аўтамабілі затрыманага памежнікі выявілі некалькі дзясяткаў незадэклараваных патронаў калібру 9 мм Luger.

Беларускі бок ад якіх-небудзь афіцыйных каментарыяў адразу адмовіўся, але прозвішча затрыманага таямніцай заставалася нядоўга. Аказалася, што ў крымінальную гісторыю трапіў начальнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску **Дзмітрый Канаплянік.** Сапраўды, асоба вядомая і высокапастаўленая.

Пракуратура Літвы падкрэслівае, што *“аб затрыманні дваіх грамадзян ва ўстаноўленым парадку была праінфармавана амбасада Беларусі ў Вільнюсе, і просьбу амбасады аб сустрэчы з затрыманым неадкладна задаволілі”.* Згодна з усё тым жа афіцыйным паведамленнем літоўскай пракуратуры, *“грамадзянін Беларусі не можа пакідаць тэрыторыю Літвы, так як у яго і жонкі, якая таксама знаходзілася ў аўтамабілі падчасператрусу і затрымання, забралі дакументы”.*

Такім чынам, зараз Канаплянік не за кратамі, хаця, паводле звестак літоўскіх СМІ, некаторы час у ролі арыштаванага яму давялося пабыць.

Версіі таго, што адбылося, самыя розныя. Як, дарэчы, заўсёды бывае, калі кампетэнтныя структуры адмоўчваюцца.

Паводле адной версіі, Канаплянік, якому ў Беларусі дазволена калі не ўсё, дык амаль усё, проста забыўся, што мае ў машыне патроны.

Паводле другой версіі, галоўны следчы Мінска падчас адпачынку наведваў у Літве свайго сябра з ліку тамтэйшых сілавікоў, які і выдзеліў яму гэтыя самыя патроны — так бы мовіць, “страляць па бляшанках”.

Трэцяя версія — правакацыя. Маўляў, нехта падкінуў гэтыя патроны, а потым даў наводку памежнікам.

Згодна з той жа неафіцыйнай інфармацыяй, Дзмітрый Канаплянік “пайшоў у адмову” і сцвярджае, што ні пра якія патроны не ведаў. Цікава, як бы павёў сябе галоўны следчы Мінска, калі б аказаўся не ў ролі падазронага, а ў больш звычнай ролі следчага? Ці паверыў бы? Па крайняй меры нашай грамадскасці вядомы выпадак, калі за пяць патронаў чалавеку далі пяць гадоў. Гэта быў сумна вядомы прыгавор ваўкавыскаму прадпрымальніку Мікалаю Аўтуховічу. Але Літва ўсё ж такі не Беларусь, і літоўскія суды не беларускія.

У любым выпадку фармальна за кантрабанду патронаў галоўнаму следчаму Мінска пагражае пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 10 гадоў. Але можна зрабіць здагадку, што зараз наконт гэтай канкрэтнай справы вядуцца нефармальныя перамовы.

### АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Дзмітрый Канаплянік** быў прызначаны начальнікам упраўлення Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па горадзе Мінску роўна год таму — у верасні 2013 года.

Нарадзіўся ў Брэсцкай вобласці. Пасля тэрміновай службы ва Узброеных сілах скончыў юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта па спецыяльнасці “правазнаўства”. З 1993-га па 2011 год праходзіў службу ў следчых падраздзяленнях органаў КДБ. 1 студзеня 2012 г. быў прызначаны на пасаду начальніка Галоўнага ўпраўлення па расследаванні злачынстваў у сферы арганізаванай злачыннасці і карупцыі Следчага камітэта. Праз дзевяць месяцаў, калі былы ягоны начальнік Аляксей Волкаў пайшоў на павышэнне, узначаліў УСК па Мінску. Дарэчы, у Следчым камітэце гэта самае буйное ўпраўленне. У ім працуе 700 чалавек.

**Алена НОВІКАВА.**

УЧОРА

## Толькі Еўропа!



Прэзідэнт Пётр Парашэнка заявіў, што Украіна мае намер падаць заяўку на атрыманне сяброўства ў Еўрапейскім Саюзе ў 2020 годзе.

Пра гэта ён сказаў, адкрываючы другі этап 12-га пазачарговага з’езда суддзяў.

У чацвер выбарчы блок Парашэнкі (нагадаем, што ва Украіне пачаліся выбары новага складу Рады) прэзентаваў грамадскасці сваю праграму рэформ “Украіна-2020”. *“Гэтая праграма прадугледжвае каля 60 рэформ і спецпраграмы, выкананне якіх дазволіць Украіне падрыхтавацца для таго, каб праз шэсць гадоў нам з вамі падалі заяўку на атрыманне сяброўства ў Еўрапейскім Саюзе”,* — заявіў Пётр Парашэнка.

### ДАСЛОЎНА

*“Я хачу падзякаваць кіраўніцтву Казахстана і Беларусі за паслядоўную падтрымку пазіцыі Украіны”, — сказаў прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка ўчора на прэс-канферэнцыі ў Кіеве.*



ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Береги суставы смолоду

*Почти каждый шестой человек после сорока пяти лет жалуется на боли в суставах. Вопреки бытующему мнению, что поражение суставов — удел стариков, все чаще заболевают артритами люди в самом активном возрасте — 30—50 лет.*

***Почему возникают заболевания суставов?***

***Чем отличается артроз от артрита?***

***Правда ли, что предрасположенность к артрозу передается по наследству?***

***Можно ли избавиться от боли в суставах при помощи народных средств?***

***Почему хрустят и щелкают суставы у младенцев?***

***Как правильно работать на даче, чтобы не навредить спине?***



На эти и другие вопросы на “Прямой линии” ответит врач-ревматолог высшей категории медицинского центра **“ЛОДЭ”**, кандидат медицинских наук, сотрудник 2-й кафедры внутренних болезней БГМУ **Ирина Аркадьевна ВАРОНЬКО**.

**Звоните в среду 1 октября с 18.00 до 19.30 по телефону 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой “Прямая линия”.

СЛЫШАЛИ?

## Вадим Девятовский избран главой Белорусской федерации легкой атлетики

*Депутат Палаты представителей Национального собрания, призер Олимпийских игр **Вадим Девятовский** избран руководителем Белорусской федерации легкой атлетики.*

Девятовский был избран руководителем практически единогласно, из всех присутствующих он сам был единственным, кто воздержался при голосовании. Других кандидатов на пост главы федерации не было.

ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО СЫХОДЗІЦЬ...

## І добра, што Леанід Козік не будзе кіраваць прафсаюзамі



Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі **Леанід КОЗІК** падаў заяву членам савета Федэрацыі з просьбай вызваліць яго ад займаемай пасады.

Сама гэтая навіна выклікала шмат меркаванняў, бо зусім нядаўна выйшаў на публіку канфлікт, што ўзнік паміж Генпракуратурай і ФПБ. Аднак сам Леанід Козік кажа, што рашэнне прыняў самастойна, без усялякага ўціску. “*Я доўга аналізаваў магчымасць пакінуць пасаду старшыні ФПБ і вырашыў, што наступіў самы зручны момант*”, — заявіў ён.

Пры гэтым старшыня ФПБ спасылаецца на свой 66-гадовы ўзрост і кажа, што не хоча больш балатавацца на гэтую пасаду і ўпрагацца ў працу яшчэ на пяць гадоў.

Але нельга не звярнуць увагу на тое, што чарговы справаздачна-выбарчы з’езд ФПБ павінен адбыцца ў наступным годзе. І лагічна было б заявіць пра сваю адстаўку і жаданне адпачыць менавіта на ім.

Аднак Леанід Козік тлумачыць: “*Я не люблю пампезнасць і не хацеў бы, каб мяне праводзілі на з’ездзе. У ФПБ зараз справаздачна-выбарчая кампанія, якая павінна праходзіць сумленна і свабодна. Людзі павінны мець магчымасць зрабіць свой выбар на карысць таго ці іншага кандыдата. У тым ліку і на пасаду старшыні ФПБ. І мне вельмі шкада, што нехта спрабуе шукаць падтэкст у гэтым маім простым чалавечым рашэнні”.*

Федэрацыю прафсаюзаў Леанід Козік узначаліў у 2002 годзе. Да гэтага ён займаў шэраг кіруючых пасад у органах улады Рэспублікі Беларусь і Саюза Беларусі і Расіі. Быў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. З 1990-га па 1995 год з’яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, членам прэзідыума, старшынёй Камісіі па эканамічнай рэформе.

Апазіцыя жорстка крытыкавала Л.Козіка за тое, што ён не столькі клапаціўся пра правы членаў прафсаюзаў, колькі зазіраў у рот кіраўніцтву краіны. Ён добра ведаў, што перавод людзей на кантрактную сістэму — гэта своеасаблівая пятля на шыі працоўнага чалавека. Можна прывесці сотні фактаў, калі чынілася самая сапраўдная расправа над тымі, хто аказаўся нелаяльным да начальства. І не прыгадваецца выпадак, каб Леанід Козік забіў у званы.

Спадар Козік не спрыяў таму, каб развіваліся незалежныя прафсаюзы. Наадварот, з яго боку было зроблена шмат крокаў, каб наогул іх задушыць, каб яны не існавалі на дзяржаўных прадпрыемствах.

Адным словам, і добра, што такі чалавек зыходзіць з кіраўнічай пасады.

**Марына БРЫЛЬ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 26 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Учитель года остался без работы

*Эта история взорвала интернет. Учитель истории из города Светлогорска Елена Маслюкова в 2013—2014 учебном году была названа лучшим учителем района, а 2 сентября ее уволили с работы: директор школы Людмила Драпезо не продлила с Еленой Маслюковой контракт.*




**Еще в феврале Елену Маслюкову чествовали как лучшего учителя района. А сегодня она безработная…**

Странная ситуация. Учитель высшей категории, у которого за все годы работы не было ни одного серьезного взыскания, все больше — поощрения и награды, который готовил школьников Гомельской области к республиканской олимпиаде по истории, оказался на улице. И это в стране, где все только и говорят о том, что престиж профессии учителя катастрофически падает, что профессионалы уходят из школы, талантливых педагогов осталось раз-два и обчелся. Их как достояние республики, казалось бы, надо беречь, создавать условия для работы. А их увольняют. И ничего — тишина.

Учитель истории из деревни Талька Пуховичского района **Наталья Ильинич**, учитель истории из Вилейки **Иосиф Матиюн**, теперь вот учитель истории из Светлогорска **Елена Маслюкова.** Все они — отличники в своей профессии — были уволены по истечении срока контракта, хотя любили свое дело, хотели и могли работать дальше...

...Когда звонила Елене Маслюковой, где-то в глубине души теплилась надежда, что катастрофическая ошибка исправлена и Елена Александровна снова на работе. Оказалось — нет.

— Хожу по врачам, здоровье что-то пошатнулось, — вздыхает Елена Александровна. — Пока нигде не работаю.

**— Как думаете, в школу есть шанс вернуться?**

— Нет, конечно. Уверена, что директор школы не единолично принимала это решение. Чиновники из районного отдела образования журналистам уже высказали свою позицию: мол, ну и что, что я в феврале этого года была признана лучшей учительницей района. Меня, мол, они на работу не брали, это прерогатива администрации школы, отдел образования принимает на работу только руководителей школ... Надеяться, что после таких заявлений чиновники района вмешаются в ситуацию, глупо. Да и обивать пороги чиновничьих кабинетов не хочется... Себя надо уважать. Кроме того, со слов моих коллег, 5 августа, когда была приемка школы после летних каникул, было сказано, что я высказываю деструктивные мысли и посему нигде в школах района работы не найду: директора будут мне мило улыбаться и отказывать в трудоустройстве.

**— А что за деструктивные мысли вы высказывали?**

— Понятия не имею. Могу предположить, что кому-то не нравилась моя позиция по отношению к событиям в Украине. Мы в учительской, естественно, обсуждали то, что там происходит. И коллеги часто ко мне как к историку обращались с просьбой прокомментировать то или иное событие, спрашивали, что я думаю. Когда начинался Майдан, я сказала, что Майдан — это цветочки, самое ужасное еще впереди. А впереди были "Крымнаш", Донбасс. Я считаю, что ответственность за события в Украине лежит на России, нечего там делать русским. Не всё, конечно, прозрачно в окружении киевской власти, не всё там можно оправдать, но Украина должна быть единой, и в этом я поддерживаю украинские власти. Это мое мнение. Возможно, кому-то оно не понравилось. Директор мне говорила, что я школу расколола, оппозицию создала...

**— Киевские власти поддерживает и руководство нашей страны. На мой взгляд, не совсем логичным выглядит такое объяснение вашего увольнения. Может быть, причина все же иная?**

— Причину мне никто не объяснял. Я обратилась к директору с просьбой дать мне письменное объяснение о причинах моего увольнения, сейчас жду ответа.

Могу предположить, что я была не совсем удобным учителем. Я не просто давала детям материал, учила их думать, размышлять. Например, в 10-м классе на уроках обществоведения мы изучаем Конституцию, и я акцентирую внимание учеников на том, что в 2004 году из Конституции было удалено ограничение одному и тому же лицу избираться на президентский срок более двух раз. Прошу их высказать свое мнение.

Недавно звонили бывшие коллеги и рассказывали, что в школе прошло совещание по идеологии, на котором директор заявила, что свое мнение вы можете оставить дома, на кухне, а в школе надо учить детей. Там же прозвучало, что детей надо возить на экскурсии по Беларуси, по нашим деревням, смотреть памятники войны. Я думаю, это тоже был камушек в мой огород. В сентябре и октябре прошлого года я возила свои 10-е классы в Киев на экскурсию.

Был еще один курьез. Когда в феврале я стала Учителем года в районе, мне предложили ехать на областной конкурс. Но я отказалась. Просто физически не хватало сил и времени, чтобы подготовиться, да и, скажу честно, не хотелось участвовать в этих шоу. Но мои документы почему-то в Гомель отослали. И когда администрация школы готовила мою анкету, завуч спросила: "Ваша партийность?", на что я ответила, что это некорректный вопрос, его в анкетах, как и вопроса о религиозной принадлежности, быть не должно. "Но если это так важно, — сказала я, — пишите: Партия БНФ". "Это что, правда?" — от удивления она растерялась. "Да, правда, с 1995 года я член этой партии..." Может, это обстоятельство кому-то показалось недопустимым для школьного учителя.

**— Я читала, что в эту школу вы пришли работать по личному приглашению директора.**

— В 10-й школе я работала 5 лет и действительно по приглашению Людмилы Яковлевны Драпезо. Эта школа котируется в городе, в рейтинге школ занимает второе место после гимназии. Я очень любила свою работу, 27 лет в школе. Не примите за нескромность, творчески подхожу к каждому уроку. Была классным руководителем двух десятых классов.

**— А что, можно быть классным руководителем одновременно в двух классах?**

— В нашей школе возможно все. Я работала на две ставки.

**— И какая была зарплата?**

— За летние месяцы с учетом отпускных — 6 миллионов в месяц. Много это или мало? Если учесть, что это плата за максимальную нагрузку, за работу на износ (а у меня было 36 часов в неделю) — это неадекватная зарплата.

**— Как дети, коллеги отреагировали на ваше увольнение?**

— К директору ходили родители, просили, чтобы мне разрешили выпустить 11-е классы. Дети просили оставить меня в школе. Коллеги постоянно звонят, учителя из других школ поддерживают. Коллеги хотели коллективно выразить поддержку, но... Не хотелось бы, чтобы из-за меня кто-то пострадал. Для многих учителей место в школе очень важно, некоторые коллеги, к сожалению, одинокие женщины, которые могут рассчитывать только на себя. Это я могу быть относительно свободной, потому что у меня хороший супруг, он разделяет мои взгляды, поддерживает меня. Да и с Людмилой Яковлевной Драпезо, на мой взгляд, разговоривать бесполезно. Она свои решения не меняет. Да и было ли это ее решение?

30 июня, когда я уходила в отпуск, директор сама мне напомнила, что 2 сентября истекает срок моего контракта и что я должна зайти к секретарю его продлить. Она, мол, документы подготовит. Все было, как обычно: нормальные рабочие отношения. И тут вдруг как гром среди ясного неба: 2 августа через секретаря мне передали уведомление о том, что со мной не продлевают контракт. Ни спасибо за работу, ни каких-то объяснений не прозвучало.

Теперь я безработная... Кто-то из родителей предположил, что, может, уйду на пенсию, педагогический 25-летний стаж, которого достаточно для льготной пенсии, уже имею. Но ничего подобного. Да, раньше учителя могли уйти на льготную пенсию, и в 2006—2008 годах, когда зарплаты в отрасли были мизерные, начался массовый отток учителей из школы. И тогда наши чиновники пересмотрели закон о пенсионном обеспечении. Стаж для льготной пенсии учителям вроде бы оставили прежний — 25 лет, но с 2009 года в этот стаж не насчитывается каникулярное время, декретный отпуск, не насчитываются даже те годы работы в школе, когда учитель не имел классного руководства, не заведовал кабинетом. Моя знакомая из собеса частным порядком посчитала, что из 5 лет, которые я проработала в 10-й школе, в мой льготный стаж засчитали только 3 года и 4 месяца. А выйти на льготную пенсию я смогу в 53 года.

**— Есть планы на будущее? Может, через суд попытаетесь восстановиться на работе?**

— Когда работаешь с душой, на результат, о некоторых вещах не задумываешься. Например, когда меня уволили, я спохватилась: контракта-то на руках нет. Стала спрашивать у коллег — у них та же ситуация. Пришли к мнению, что второй экземпляр нам администрация школы не выдавала. Обзвонила почти всех учителей, нашла только один контракт на руках. Думаю, что по сути контракты составляются по одному шаблону, они все одинаковые. Отдала этот экземпляр адвокату. Он будет решать, с какими требованиями обращаться в суд. Пока думаем.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Когда верстался номер

Вчера Елена Маслюкова получила ответ директора школы Людмилы Драпезо на свое обращение.

— Это вряд ли можно назвать разъяснением, скорее отпиской, — говорит Елена Александровна. — Суть такова: поскольку я имею дисциплинарное взыскание в виде замечания, то директор никаких объяснений по поводу непродления контракта со мной давать не обязана...

АФІЦЫЙНА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА: «Майце на ўвазе: такая будзе і пенсія»

Падчас сустрэчы з працоўным калектывам Аршанскага льнокамбіната кіраўнік краіны загаварыў пра пенсіі.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі даўно трэба было павышаць пенсіённы ўзрост. "*Але вы гэтага не хочаце*, — заўважыў Лукашэнка. — *А я вам абяцаў, што, перш чым гэта рабіць, мы з вамі параімся. Але майце на ўвазе: такая будзе і пенсія... Калі б у нас быў вышэй пенсіённы ўзрост, то вялікую масу грошай мы маглі б дзяліць на меншую колькасць пенсіянераў, і пенсія была б значна вышэй. Але калі вы гэтага не хочаце — добра. Будзем шукаць іншыя шляхі*".

### ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

## Пенсія настаўніка — 2,5 мільёна, дэпутата — 9 мільёнаў 200 тысяч рублёў

Сёння ў Беларусі сярэдні памер працоўнай пенсіі па ўзросце складае **2 мільёны 597 тысяч.** Столькі (плюс-мінус) атрымліваюць былыя рабочыя, настаўнікі, ўрачы, акадэмікі. Вясковыя пенсіянеры жывуць на дапамогу яшчэ меншую. Але ёсць у краіне і тыя, у каго пенсіі большыя нават за зарплаты многіх працаўнікоў. Сярод высокааплатных пенсіянераў — былыя чыноўнікі, якія займалі высокія дзяржаўныя пасады, кіравалі міністэрствамі, аблвыканкамамі, іх намеснікі, а таксама дэпутаты. Ім пенсіі гарантаваны спецыяльным указам Аляксандра Лукашэнкі. Значна вышэй сярэдняй працоўнай пенсіі па ўзросце пенсіі ваенных і чыноўнікоў сярэдняга звяна.

Якія ж пенсіі атрымліваюць гэтыя "асобыя" пенсіянеры?

Былыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў — **9 мільёнаў 200 тысяч.**

Былыя дзяржслужачыя, якія займалі вышэйшыя дзяржаўныя пасады — **каля 9 мільёнаў.**

Дзяржслужачыя (намеснікі міністраў, старшыні абылвыканкамаў, члены праўленя Нацбанка і г.д.) — **7,5—8,2 мільёна.**

Чыноўнікі сярэдняга звяна — **4,7— 5 мільёнаў.**

Ваенныя пенсіянеры ў званні генерала — **6,5—7 мільёнаў.**

Ваенныя пенсіянеры ў званні палкоўніка — **5,3—6 мільёнаў.**

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДАСЛЕДАВАННІ

## На здароўе аднаго беларуса выдаткоўваецца 339 долараў

*На аднаго паляка — 854, расіяніна — 887.*

Агенцтва Bloomberg апублікавала другі штогадовы рэйтынг эфектыўнасці нацыянальных сістэм аховы здароўя. Эфектыўнасць сістэмы аховы здароўя ацэньвалася шляхам супастаўлення такіх паказчыкаў, як сярэдняя працягласць жыцця, доля выдаткаў на ахову здароўя ў нацыянальнай эканоміцы і выдаткі на ахову здароўя на душу насельніцтва.

Калі сыходзіць з такіх крытэрыяў, то беларуская сістэма аховы здароўя лепшая за амерыканскую. Сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі 72,1 года, доля выдаткаў на ахову здароўя — 5%, выдаткі на душу — 339 долараў. У ЗША на кожнага жыхара дзяржава траціць значна больш — 8895 долараў, доля выдаткаў у эканоміцы 17,2%, але працягласць жыцця амерыканцаў пры гэтым толькі на шэсць гадоў больш, чым у беларусаў, — 78,7 года. ЗША занялі ў рэйтынгу Bloomberg 44-е месца, Беларусь — 42-е. Праўда, трэба адзначыць, што паказчыкі, якімі карысталіся складальнікі даследавання, не зусім дакладныя. Так, доля выдаткаў на ахову здароўя ў Беларусі апошнім часам ніколі не дасягала 5% ад ВУП. У 2012 годзе (а дадзеныя за гэты год улічваліся ў даследаванні Bloomberg) у Беларусі, паводле афіцыйнай статыстыкі, на ахову здароўя было затрачана 3,8% ад ВУП. У 2013 — 4%, сёлета запланава выдаткаваць 4,2% ад валавога ўнутранага прадукту. Таму складана паверыць, што наша сістэма аховы здароўя больш эфектыўная, чым у ЗША.

Лідарам рэйтынгу стаў Сінгапур, дзе сярэдняя працягласць жыцця складае 82,1 года, доля выдаткаў на ахову здароўя ў эканоміцы — 4,5%, а выдаткі на ахову здароўя на душу насельніцтва — 2426 долараў.

З еўрапейскіх краін самае высокае месца ў Італіі (агульнае трэцяе месца). 22-е месца заняла наша суседка Польшча. Сярэдняя працягласць жыцця палякаў складае 76,8 года, а выдаткі на ахову здароўя на душу насельніцтва — 854 долары. Польшча, дарэчы, апярэдзіла Нямеччыну, якая стала 23-й.

Апошняя ў рэйтынгу Расія. Сярэдняя працягласць жыцця расіян менш, чым у Беларусі, — 70,5 года, хоць выдаткі на медыцыну значна большыя — 887 долараў на душу.

Трэба адзначыць, што рэйтынг ацэньвае эфектыўнасць нацыянальных сістэм аховы здароўя краін свету з насельніцтвам ад 5 млн чалавек, памерам ВУП на душу насельніцтва ад 5 тыс. долараў і сярэдняй працягласцю жыцця ад 70 гадоў (паводле дадзеных на 2012 год). У рэйтынг трапіла 51 краіна. З краін СНД толькі Беларусь і Расія.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Што чакае экс-дырэктара «Барысаўдрэва»?

*У Мінскім абласным судзе пачаўся суд над былым генеральным дырэктарам "Барысаўдрэва" Уладзімірам Мальцавым. Калі былога кіраўніка міліцыянеры ўвялі ў залу пасяджэнняў, многія адчулі шок. Пад абодвума вачыма выразна выдзяляліся сінякі — тыя самыя, што ў народзе называюць "фінгалы". Бацька Мальцава, гледзячы на сына, проста не мог стрымаць слёз.*



Аднак на ўмовы ўтрымання ні падсудны, ні яго сям'я не скардзіліся. А вось што тычыцца абвінавачання, то Уладзімір Мальцаў катэгарычна не прызнае сябе вінаватым.

Нагадаем, што былы генеральны дырэктар абвінавачваецца па ч.3 арт.424 Крымінальнага кодэкса Беларусі — злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі ў ходзе выканання дзяржпраграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства, якое прывяло да цяжкіх наступстваў у выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры. Сярод наступстваў дзеянняў гендырэктара пракуратура выставіла зрыў тэрмінаў рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі.

Як расказаў адвакат Дзмітрый Гарачка, *"у тым, што Мальцаў атрымаў нейкія грошы для сябе асабіста, яго не абвінавачваюць"*. Іншымі словамі, напэўна, упершыню ў беларускай юрыдычнай практыцы "злоўжыванне паўнамоцтвамі" не азначае "на сваю карысць" ці "ў сваю кішэню". Ды і ніякіх асаблівых багаццяў следчыя ў дырэктара не знайшлі: арыштавана маёмасць на 400 мільёнаў беларускіх рублёў (ці на 40 тысяч долараў). Па сутнасці, гэта адна невялічкая дача ці нядрэнная, але і не шыкоўная машына.

Алена Мальцава, жонка абвінавачанага, сказала журналістам: *"Майго мужа спрабуюць зрабіць стрэлачнікам. Ён займаўся мадэрнізацыяй толькі апошніх паўтара года, хаця сама мадэрнізацыя ішла каля васьмі гадоў. І, зразумела, што за такі час нанесці гэткі вялізны ўрон проста нерэальна. Тым больш усё, што рабіў, ён узгадняў з рознымі кантралюючымі органамі".*

Абвінавачанне, па сутнасці, складаецца з двух эпізодаў. Першы тычыцца закупу і мантажу для прадпрыемства двух паравых катлоў вытворчасці турэцкай фірмы. Мальцаў нібыта забяспечыў перамогу гэтай фірмы ў тэндары на пастаўку катлоў, хоць былі іншыя пастаўшчыкі. Потым, паводле меркавання следства, туркі несвоечасова прадставілі дакументацыю, спазніліся з пастаўкай катлоў, не мелі дазволу на мантаж абсталявання. А Мальцаў, як вынікае з абвінавачання, іх прыкрываў дзеля *"кар'ерных меркаванняў"*, *"дзейнічаў насуперак эканамічнай мэтазгоднасці"*. У выніку былі сарваны тэрміны мадэрнізацыі "Барысаўдрэва", якія прызначыў урад і асабіста Аляксандр Лукашэнка, а прадпрыемства панесла страты больш як на 16 мільярдаў рублёў.

Прыкладна такая ж фабула і ў другім эпізодзе — з лініяй для сушкі запалкавай саломкі, толькі тут ужо фігуруе шведская фірма.

Зараз на працэсе ідзе допыт сведак, і былы дырэктар актыўна ў гэтым удзельнічае.

Суддзя Валянцін Вердыш спрабуе разабрацца ва ўсіх нюансах справы. Які будзе вынік — пагдядзім.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### З АРХІВА

У лістападзе 2012 года, калі Аляксандр Лукашэнка ўпершыню прыехаў на "Барысаўдрэў", ён стаў на бок маладога дырэктара. *"Я ж разумею, што яму сёння нялёгка з гэтай дэмакратыяй. Ён прыйшоў — п'янкі пастаянныя тут", "Дырэктара абвінавачваць не варта, ён тут адносна нядаўна, прыйшоў з сістэмы ваенпрама", "Я вельмі спадзяюся, што ў цябе пачынаецца новае жыццё наогул, што 7 лістапада я прыеду і скажу: не міністра сюды пасылаць, а ўзяць гэтага дырэктара і паставіць міністрам",* — вось такія былі выказванні. А вунь як яно выйшла.

ПОСТФАКТУМ

## Другі заход

*Паводле вынікаў візіту прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча ў ЗША афіцыйныя беларускія СМІ распаўсюдзілі навіну, якая як мінімум з'яўляецца навіной не першай свежасці.*

Так, інфармацыйнае агенцтва БЕЛТА паведамляе: *"З кампаніяй "Джэнерал Мотарс" узгоднены асноўныя падыходы па стварэнні ў Беларусі вытворчых магутнасцяў па вытворчасці легкавых аўтамабіляў. Пра гэта ў Нью-Ёрку паведаміў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч... Паводле яго слоў, у выніку павінны быць дасягнуты аб'ёмы вытворчасці ў 20—25 тысяч легкавых аўтамабіляў у год".*

Добрая навіна, але... не навіна.

Яшчэ ў сярэдзіне 2013 года канцэрн "Джэнерал Мотарс" і беларуска-брытанскае СП ЗАТ "Юнісан" падпісалі рамачнае пагадненне аб зборцы аўтамабіляў у Беларусі. Згодна з дакументам, планавалася, што першай мадэллю, зборка якой пачнецца ў Беларусі, стане "Опель Корса". І нават дата выпуску першага аўтамабіля называлася — пачатак ліпеня 2014 года (наколькі вядома, гэтую ўрачыстую падзею хацелі прымеркаваць да Дня Незалежнасці, які ў Беларусі святкуецца 3 чэрвеня, а ў ЗША 4 чэрвеня). Аднак машына так і не з'явілася. Прычым прычыны ў кампаніі тлумачыць адмовіліся.

ЧУЛІ?

## Званкі даражэюць

*У Беларусі з 1 кастрычніка павялічваюцца тарыфы на паслугі электрасувязі, якія аказваюцца фізічным і юрыдычным асобам. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў пастанове Мінэканомікі №66.*

Так, для фізічных асоб абаненцкая плата ў месяц за асноўны, уключаны ў асобную абаненцкую лінію тэлефон індывідуальнага карыстання, пераведзены на пачасавы ўлік, будзе павялічана на 19,7 працэнта — да 17.650 рублёў. Пачасавая плата за кожную поўную або няпоўную хвіліну злучэння вырасце на 19,9 працэнта — да 44,6 рубля.

Абаненты, не пераведзеныя на пачасавую сістэму аплаты размоў, штомесяц будуць плаціць 24.950 рублёў (на 19,7 працэнта больш).

Кошт хвіліны міжгародніх тэлефонных злучэнняў для фізічных асоб вырасце на 9,8 працэнта — да 89,4 рубля.

Абаненцкая плата за радыёкропку цяпер будзе складаць 2400 рублёў у месяц.

ПРЭЦЭДЭНТ

## Суд прызнаў незаконнай забарону акцыі АГП

Суд Хойніцкага раёна прыняў незвычайнае для нашай краіны рашэнне: прызнаць скаргу актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандра Працкі абгрунтаванай і адмяніць рашэнне мясцовага райвыканкама аб адмове ў правядзенні пікета.

Нагадаем, у Гомелі і вобласці за апошнія дзесяць гадоў улады не дазволілі правядзенне ніводнага пікета ці мітынгу, якія планаваліся па ініцыятыве актывістаў дэмакратычнага руху і апазіцыйных партый. Абскарджванні рашэнняў выканаўчых органаў у судзе не прыносілі яшчэ плёну: суд станавіўся на бок гарадскіх і раённых выканкамаў.

*"За апошнія дзесяць гадоў у маёй практыцы гэта першы выпадак, калі судовая ўлада паказала выканаўчай яе рэальнае месца. Зараз будзем дабівацца правядзення масавага мерапрыемства ў падтрымку ўкраінскага народа ў Хойніках, як і планавалася ў ліпені. І абмяркуем санкцыі ў дачыненні раённых чыноўнікаў. Калі рашэнне райвыканкама адменена, то райвыканкам павінен паўторна разгледзець заяўку Аляксандра Працкі і прапанаваць пікет у зручны для яго час",* — пракаментаваў прынятае рашэнне праваабаронца Леанід Судаленка.

Актывіст АГП Аляксандр Працка планаваў 27 ліпеня правесці ў Хойніках два пікеты з мэтай актуалізацыі ў грамадстве каштоўнасці незалежнасці і суверэнітэту, а таксама выказвання салідарнасці з украінскім народам у яго імкненні захаваць цэласнасць і незалежнасць дзяржавы. Актывіст загадзя падаў у райвыканкам адпаведную заяву на правядзенне пікетаў на дзвюх пляцоўках — каля ўнівермага "Юбілейны" і на плошчы Леніна. Але райвыканкам адмовіў яму ў правядзенні пікета, матывуючы гэта тым, што дадзеныя пляцоўкі можна выкарыстоўваць у мэтах масавых мерапрыемстваў толькі для сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з грамадзянамі ці правядзення іншых сустрэч у перыяд выбараў. А для пікетаў, маўляў, дадзеныя пляцоўкі не прадугледжаны.

Аляксандр Працка не згадзіўся з дадзеным рашэннем, палічыўшы, што такое рашэнне абмяжоўвае яго правы, і абскардзіў яго ў судзе Хойніцкага раёна. І нечакана суд стаў на бок актывіста.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
26 ВЕРАСНЯ 2014 г.

ЗНАКОМЬТЕСЬ

# Новый генсек НАТО объявил своим приоритетом ситуацию в Украине

Йенс Столтенберг заявил, что о возвращении к прежнему формату отношений между НАТО и Россией сейчас не может быть речи. Кроме того, обусловленная российской агрессией ситуация в Украине станет приоритетным вопросом для Йенса Столтенберга, который 1 октября вступит в должность генерального секретаря НАТО.

Об этом он заявил в интервью Норвежскому телеграфному бюро.

*"На серьезность сложившейся в Украине ситуации указывает тот факт, что военная сила применяется для изменения границ государств. Украина является партнером НАТО и, кроме того, граничит с государствами — членами альянса",* — отметил Столтенберг.

Он также отметил, что возвращение к прежнему формату отношений между РФ и НАТО сейчас не рассматривается.

*"Возвращение к прежнему не рассматривается в качестве варианта. Россией было принято решение придерживаться более агрессивной линии. Поэтому мы не можем, как надеялись ранее, продолжать укрепление партнерства с Россией... Пример Норвегии как страны, являющейся членом НАТО и модернизирующей свои вооруженные силы, показывает, что сила и твердость — необходимые условия для ведения диалога с РФ",* — подчеркнул Столтенберг.

Как сообщалось, Украина надеется получить статус особого партнера вне НАТО в ноябре.



Йенс Столтенберг происходит из семьи, хорошо известной в норвежской политике. Его отец Турвальд Столтенберг занимал пост министра иностранных дел Норвегии.

В раннем детстве (1960—1963) Йенс Столтенберг жил в Югославии, где его отец был послом.

Начал свою карьеру как журналист в тогда влиятельной газете "Arbeiderbladet", являвшейся официальным рупором норвежских левых. Возглавлял молодежное крыло Норвежской рабочей партии в 1985—1989 годах. Был министром торговли и энергетики в 1993—1996-х, министром финансов в 1996—1997 годах. В марте 2000 года возглавил правительство страны. Кабинет просуществовал немногим более года, так как на очередных парламентских выборах 10 сентября 2001 года Норвежская рабочая партия получила один из самых худших результатов за всю историю своего существования, набрав лишь 24 процента голосов избирателей.

В условиях внутрипартийного кризиса Йенс Столтенберг сменил Турбьёрна Ягланда на посту председателя партии и возглавил Норвежскую рабочую партию в 2002 году, приведя ее к победе на парламентских выборах. По результатам парламентских выборов 12 сентября 2005 года Норвежская рабочая партия смогла сформировать правящую коалицию с центристами и Социалистической левой партией. 17 октября 2005 года правительство под руководством Йенса Столтенберга приступило к работе.

1 октября 2014 года Столтенберг вступит в должность Генерального секретаря НАТО.

КСТАТИ

## В Польше проходят крупные учения НАТО

С 24 сентября по 3 октября на севере Польши проходят крупномасштабные военные учения с участием девяти стран НАТО.

В них будут задействованы около 12,5 тысячи солдат, из них 750 — из Эстонии, Великобритании, Канады, Литвы, Нидерландов, Чехии, Венгрии и США. Об этом сообщает Министерство обороны Польши.

Учения носят название "Анаконда". Целью военнослужащих является отработка быстрой дислокации войск в экстренном случае.

ПРАТЭСТ



## Тысячы студэнтаў выйшлі на акцыі за дэмакратыю ў Ганконгу

У Ганконгу пачаліся шматтысячныя студэнцкія пратэсты з-за палітыкі Кітая, які парушыў уласныя абяцанні і адмаўляе рэгіёну ў магчымасці абіраць кіраўнікоў на дэмакратычных выбарах. Да тысяч студэнтаў, якія выйшлі на вуліцы, далучыліся 400 выкладчыкаў Кітайскага Універсітэта Ганконга.

Палітычныя лідары Кітая абяцалі, што да 2017 года ў Ганконгу пройдуць прамыя выбары кіраўніцтва, але ў жніўні Пекін перадумаў і абвясціў, што на выбарах будуць толькі 2—3 кандыдаты, якіх загадзя абярэ спецыяльны камітэт.

Нагадаем, што Ганконг, які доўгі час быў брытанскай калоніяй, вярнуўся пад юрысдыкцыю Кітая ў 1997 годзе і атрымаў статус аўтаномнага рэгіёна. КНР мусіла захоўваць дэмакратычную палітычную сістэму ў адпаведнасці з канцэпцыяй "Адна краіна — дзве сістэмы", прапанаванай Дэн Сяапінам яшчэ на пачатку 1980 для Тайваня, Макао і Ганконга. Аднак цяпер Пекін адмаўляецца праводзіць свабодныя выбары кіраўнікоў гарадоў Ганконга.

ПЕРСОНЫ

## Елизавета II передает полномочия

*Британская королева Елизавета II впервые совершит зарубежную поездку с тремя наследниками, утверждает The Daily Mail. По имеющейся информации, Ее Величество намерена посетить Мальту в 2015 году. Сопровождать монарха будут принцы Чарльз, Уильям и Джордж.*

"Историческое семейное путешествие" запланировано на следующий ноябрь, когда 89-летняя Елизавета II отправится на встречу глав правительств Британского содружества (CHOGM) впервые с 2011 года, говорится в статье. Кроме того, впервые монархия и три ее наследника поедут в совместную зарубежную поездку, отмечает издание.

В 2013 году Елизавету II на мероприятии CHOGM, которое проводится раз в два года, представлял ее сын, принц Чарльз. Встреча проводилась на Шри-Ланке, и из-за преклонного возраста королевы было решено, что она в столь долгое путешествие не отправится, напоминает газета. При этом издание обращает внимание, что полет до Мальты занимает около трех часов.

В мае 2013 года сообщалось, что Елизавета II сокращает количество международных поездок и начинает передавать свои полномочия принцу Чарльзу.

ГОРЯЧАЯ ТОЧКА

## Лидер шиитов объявил о захвате столицы Йемена

*Лидер шиитской повстанческой группировки "Аль-Хуси" Абд аль-Малик аль-Хути объявил о захвате столицы Йемена города Саны. Об этом сообщает агентство Франс Пресс.*



В эфире местного телевидения шиитский лидер поздравил своих сторонников "с победой в народной революции" и заявил о начале новой эры, основанной на сотрудничестве. Ранее сообщалось, что 20 сентября власти Йемена и повстанцы подписали соглашение о перемирии в стране в присутствии спецпосланника ООН.

С середины августа в Йемене проходили акции протеста шиитов, которые требовали отставки правительства. Шииты захватили здания правительства и государственной радиостанции. В результате действий повстанцев прекратили вещание три государственных телеканала Йемена. Сотни местных жителей были вынуждены бежать из столицы, опасаясь эскалации насилия. Также из-за беспорядков власти Йемена закрыли в столице аэропорт, школы и правительственные учреждения.

В итоге премьер-министр Йемена Мухаммад Салем Басиндва объявил о своей отставке.

КАМПЕТЭНТНЫ СУРАЗМОЎЦА

## Ханс-Георг ВІК: «Калісьці гэтая сістэма рухне»

Былы кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску, колішні кіраўнік разведкі ФРГ 86-гадовы Ханс-Георг Вік пачынае нашу размову ў сваіх берлінскіх апартаментах з канстатацыі: "І беларускі, і расійскі аўтарытарныя рэжымы прыгнятаюць людзей, і трымаюцца яны дзякуючы рэсурсам: расійскі — уласным прыродным рэсурсам, беларускі — дзякуючы расійскім. І гэтым рэжымам наканаваны крах, мы толькі не ведаем дакладнай даты".

Я прашу Ханса-Георга Віка, сведку краху розных таталітарных рэжымаў, ацаніць трываласць беларускага аўтарытарнага рэжыму і пытаюся: у выпадку, калі адбудзецца ягоны крах, гэта будзе ў большай ступені абумоўлена ўнутранымі ці знешнімі працэсамі?

— Звонку гэтыя працэсы могуць адбывацца толькі ў тым выпадку, калі гэта будзе не інтэрвенцыя, не ўмяшанне. Калі гэта будуць добрыя пазітыўныя прыклады для грамадства, такія як прыклады пасьпяховага эканамічнага развіцця, трансфармацыі тэхналагічных працэсаў, развіцця свабоднага грамадства, незалежных судоў. На сёння жыццяздольнасць беларускага рэжыму падтрымліваецца з Масквы, і дзякуючы гэтаму ён атрымлівае магчымасць ціску на грамадства. Калі б сёння расійскае грамадства было свабодным і не падтрымлівала Беларусь праз газ і нафту, то беларускі аўтарытарны рэжым не існаваў бы.

Для беларускага рэжыму сёння існуе вялікая небяспека, бо ў Расіі пачынаюць выкарыстоўваць нацыяналістычныя тэндэнцыі. Размова ідзе пра розныя формы абароны і падтрымкі этнічных расіян за мяжой. І на гэтую тэндэнцыю беларускім уладам трэба неяк рэагаваць. На небяспечную палітыку абароны этнічных рускіх (як у постсавецкіх краінах, так і ў іншых краінах, якія не былі часткай СССР, але маюць этнічных рускіх) неабходна рэагаваць. Напрыклад, НАТО зрабіла ўжо першыя крокі, заснаваныя на 5-м параграфе статута гэтай арганізацыі, які прадугледжвае ўзаемную абарону краін-удзельніц альянсу, і прыняло рашэнне аб пашырэнні кантынгенту сваіх войскаў у краінах Балтыі. Пуцін кажа пра намер стварыць новую дзяржаву Наваросія на тэрыторыі цяперашняй Украіны. Але гэта немагчыма.

Сёння ў выніку расійска-ўкраінскага крызісу мы бачым імперскія тэндэнцыі ў Расіі. Расія афіцыйна кажа, што абараняе сваіх грамадзян, але гэта толькі падстава. Насамрэч гэта імперская тэндэнцыя. Новая тэндэнцыя! І мы, дэмакратычныя краіны, павінны адказаць на яе. Праўда, у дэмакратычных краінах гэта крыху доўга адбываецца. Але, як і ў часы халоднай вайны, мы заўсёды пакідаем дзверы для перамоў дзеля міру.

**— Апошнім часам еўрапейскія палітыкі ўжо не называюць Аляксандра Лукашэнку апошнім дыктатарам Еўропы, паколькі Мінск стаў пляцоўкай для расійска-ўкраінскіх мірных перамоў. У Беларусь прыязджаюць высокапастаўленыя прадстаўнікі ЕС, ЗША... Наколькі, на вашу думку, вялікая верагоднасць легітымізацыі Захадам рэжыму Аляксандра Лукашэнкі пасля выбараў 2015 года, калі Мінск захавае гэты перамоўны статус?**

— Стратэгічныя інтарэсы і стратэгічная сітуацыя сёння прыводзяць да таго, што неабходна нават на такім узроўні супрацоўніцтва з Лукашэнкам. Але гэта ні ў якай ступені, ні ў якім разе не азначае, што наш аналіз унутранай сітуацыі ў Беларусі, наша пазіцыя ў дачыненні да ўнутраных працэсаў у Беларусі змяніліся. Не змяніліся! Як не змянілася і грамадская думка.

Для тых заходніх палітыкаў, якія выйгралі выбары свабодна і сумленна, практычна немагчыма прызнаць аўтарытарную сістэму Лукашэнкі, немагчыма прызнаць чалавека, які несумленна выйграе выбары ў несвабодных умовах. Калі Пуцін кажа спачатку пра незалежны выбар Крыма, а праз 10 дзён прызнаецца, што там былі расійскія салдаты, то такі чалавек не з'яўляецца ў палітычнай сферы надзейным партнёрам, такому чалавеку нельга верыць. Калі б такі чалавек быў у дэмакратычным грамадстве, ён бы не змог доўга існаваць як палітык. Але ў крызісныя часы, на жаль, немагчыма выбіраць партнёраў, можна выбіраць толькі тых людзей, з якімі неабходна весці размову. Маральныя ацэнкі тут вельмі цяжка рабіць.

**— Як паведамлялася, Уладзімір Пуцін у размове з Пятром Парашэнкам сказаў, што калі захоча, то за дзве гадзіны можа ўзяць Кіеў і яшчэ пяць еўрапейскіх сталіц. Каму была адрасавана гэтая пагроза? У СМІ цяпер часта выкарыстоўваецца выраз "трэцяя сусветная вайна". Наколькі гэтая пагроза рэальная, калі абапірацца на ваш вопыт працы ў разведцы ў часы халоднай вайны?**

— Калі Пуцін у размове з Парашэнкам выкарыстоўвае такія словы, то найперш узнікаюць вялікія сумневы ў разумовым стане палітычных сіл у Расіі. Вера, давер да аўтарытарнай сістэмы Лукашэнкі вельмі нізкія, давер да аўтарытарнай сістэмы Пуціна такі ж нізкі. І таму рэакцыі на такія словы, на такія дзеянні Пуціна — гэта санкцыі ЕС у дачыненні да Расіі. У такіх умовах НАТО становіцца больш уплывовай арганізацыяй... Ужо няма ніякіх ілюзій наконт палітыкі Расіі. Мы далей працягваем працаваць над прэвентыўнымі захадамі дзеля ўрэгулявання канфлікту, і гэтыя захады ўключаюць усе магчымыя сродкі.

**— 15 гадоў таму, напярэдадні другіх прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, вы давалі парады беларускім дэмакратычным сілам і, як самі казалі, пасадзілі іх за стол перамоў... Цяпер, напярэдадні выбараў 2015 года, якую параду беларускім дэмакратычным сілам вы далі б?**

— Як і мінулы раз, я прапанаваў бы выбар адзінага кандыдата. Але гэта не значыць, што гэтага кандыдата проста трэба вылучыць. Гэты кандыдат усё ж павінен атрымаць сапраўдную падтрымку ад усіх дэмакратаў — як маральную, так і падтрымку дзеяннямі. У гэтым плане апазіцыя ў 2001 годзе не дамовілася, яны вылучылі кандыдата, але не была створана каманда з усіх дэмсіл, якая магла б падтрымаць гэтага кандыдата. І толькі тады, калі і першы кампанент (вылучэнне), і другі кампанент (падтрымка) будуць разам, такі кандыдат стане палітычнай сілай, і гэта будзе важным знакам для грамадзянскай супольнасці Беларусі.

**Ганна СОУСЬ**
*(Радыё Свабода).*



### АСАБІСТАЯ СПРАВА

**Ханс-Георг Вік** нарадзіўся 28 сакавіка 1928 года ў Гамбургу.

1947—1952 гг. — навучанне ў Гамбургскім універсітэце: гісторыя, філасофія, публічнае права. Атрымаў доктарскую ступень у 1953 годзе. Дысертацыю пісаў на тэму "Стварэнне Хрысціянска-дэмакратычнага саюза і аднаўленне партыі Цэнтра ў 1945—1947 гг.".

З 1954 г. на дыпламатычнай службе.

1966—1974 гг.: — Фэдэральнае міністэрства абароны (у 1970—1974 гг. — начальнік штаба планавання).

1974—1977 гг. — пасол Германіі ў Іране, 1977—1980 гг. — пасол Германіі ў СССР.

1980—1985 гг. — пастаянны прадстаўнік ФРГ у Паўночнаатлантычным савеце (НАТО) у Бруселі.

1985—1990 гг. — кіраўнік нямецкай разведкі (BND).

1990—1993 гг. — пасол Германіі ў Індыі.

1993—1995 гг. — дарадца прэзідэнта Грузіі Эдуарда Шэварднадзэ.

1997—2001 гг. — кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску.

З 2004 года — кіраўнік нямецкага таварыства "Правы чалавека ў Беларусі". Таксама з 2004 года Ханс-Георг Вік з'яўляецца старшынёй Кансультацыйнага савета па разведцы (GKND).

АНАЛІТЫКА

# 10 год сяброўства Літвы і Польшчы ў Еўрасаюзе

***Літва і Польшча — дзве бліжэйшыя краіны-суседкі Беларусі. Нас з імі аб'ядноўвае многае, але, напэўна, найбольш важнае — гэта еўрапейская ідэнтычнасць.***

У той жа час, калі Літва і Польшча свядома і непахісна зрабілі выбар на карысць рэалізацыі гэтай ідэнтычнасці, Беларусь пайшла іншым шляхам. Сёлета Літва і Польшча святкуюць дзесяцігоддзе паўнавартаснага сяброўства ў Еўрапейскім Саюзе. Беларусь, верагодна, у 2015 годзе стане часткай Еўразійскага эканамічнага саюза.

Два розныя вектары развіцця, набор розных каштоўнасцяў і рэалій. Давайце прааналізуем, што дало Літве і Польшчы ўваходжанне ў ЕС. Зробім гэта ў параўнанні з нашай краінай.

## Курс на еўраінтэграцыю

Гісторыя еўраінтэграцыі Літвы і Польшчы пачынаецца раней за непасрэдна ўступленне ў ЕС. У Польшчы вялікую ролю ў гэтым адыграў грамадскі рух "Салідарнасць". Менавіта дзякуючы яму напрыканцы 1980-х гг. распачалася актыўная праца па рэфармаванні палітычнай і эканамічнай сістэмы.

Літва была першай савецкай рэспублікай, якая абвясціла пра аднаўленне незалежнасці ў 1990 годзе. Аднаўленне незалежнасці і распад СССР азначалі вяртанне Літвы на мапу Еўропы, з якой яна знікла ўлетку 1940 года.

Абедзве краіны цвёрда выбралі курс на еўраінтэграцыю. У 1993 годзе ЕС заявіў пра гатоўнасць падтрымаць такі выбар. Для далучэння да ЕС неабходна было выканаць патрабаванні трох крытэрыяў (так званых Капенгагенскіх крытэрыяў): 1) палітычны крытэрый (дэмакратыя, павага да правоў чалавека); 2) эканамічны крытэрый (рынкавая эканоміка) і 3) крытэрый здольнасці ўвядзення і прымянення прававых нормаў ЕС (адпаведнасць нацыянальнага права еўрапейскаму).

З абедзвюма краінамі ЕС заключыў пагадненні аб асацыяцыі, падобныя да тых, што цяпер прапаноўваюцца краінам Усходняга партнёрства. Паводле гэтых пагадненняў, краіны распачалі набліжэнне да стандартаў ЕС.

8 красавіка 1994 года Польшча і 8 снежня 1995 года Літва падалі афіцыйныя заяўкі на ўступленне ў Еўрапейскі Саюз. Афіцыйныя перамовы пра ўступленне ў ЕС пачаліся ў 1998-м і 2000 гадах адпаведна і скончыліся паспяховым выкананнем трох крытэрыяў абедзвюма краінамі ў 2002 годзе. Апошнім крокам на шляху ўступлення ў ЕС былі рэферэндумы 2003 года: 91,1% літоўцаў і 77,6% палякаў (адпаведна 63,4% і 58,9% з ліку тых, якія ўзялі ўдзел у рэферэндуме) падтрымалі сяброўства ў ЕС. 1 мая 2004 года Літва і Польшча афіцыйна сталі сябрамі ЕС.

Такім чынам, мінула менш за 10 год з моманту падачы заяўкі на ўступленне ў ЕС, тады як у сярэдзіне 1990-х гг. мала хто верыў у такую хуткую інтэграцыю.

На сённяшні дзень абедзве краіны з'яўляюцца паспяховымі дэмакратыямі, дзе некалькі разоў мянялася ўрадавая большасць і нават прэзідэнты, а эканомікі застаюцца рынкавымі і прывабнымі для інвестараў.

## Першыя вынікі

Вынікі апытанняў паказваюць, якія плюсы жыхары Літвы і Польшчы бачаць у сяброўстве ў ЕС, а таксама якія чаканні яны з гэтым звязваюць. Так, сёння 61% літоўцаў і 51% палякаў звязваюць з ЕС свабоду перамяшчэння, атрымання адукацыі і працаўладкавання на прасторах ЕС.

Немалаважнымі з'яўляюцца пытанні дэмакратыі, мацнейшай ролі ў свеце ў складзе ЕС, эканамічнага развіцця і стандартаў сферы сацыяльнай абароны.

Грошы структурных фондаў ЕС, якія накіроўваюцца ў праекты, звязаныя з развіццём інфраструктуры і чалавечага патэнцыялу для новых сябраў ЕС, сталі важнай дапамогай для Літвы і Польшчы. З 2014 года пачаўся новы фінансавы цыкл ЕС, у рамках якога Літва і Польшча возьмуць удзел у трэцяй з моманту ўступлення ў ЕС стадыі размеркавання фондаў, якія ў народзе называюцца проста "еўрапейскія грошы". Напрыклад, за перыяд з 2007-га па 2013 год каля 7 млрд еўра былі размеркаваны з еўрапейскіх структурных фондаў на розныя праекты ў Літве і больш за 65 млрд еўра — у Польшчы.

Калі для часткі насельніцтва "еўрапейскія грошы" могуць быць рэччу даволі абстрактнай, іншы плюс сяброўства ў ЕС больш відавочны: свабода перамяшчэння. Нішто не можа параўнацца з перавагамі грамадзянства ЕС і са зручнасцю Шэнгенскай зоны. Літва і Польшча далучыліся да сістэмы, якая здымае кантроль унутраных межаў у ЕС. Зручнасць вандравання ў Еўропе была ў першую чаргу ацэнена маладым пакаленнем, якое вельмі мабільнае і шмат у чым арыентавана на аб'яднаную Еўропу.

Безумоўна, гэтыя дзесяць год не былі вельмі простымі для ЕС, асабліва ў сувязі з сусветным крызісам. Нягледзячы на гэта, на пытанне, ці атрымалі краіны выгоды ад сяброўства ў ЕС, у 2011 годзе станоўча адказалі 67% літоўцаў і 73% палякаў (у 2004 г. 78% і 55% адпаведна). Таму падтрымка літоўцаў трохі зменшылася, а палякаў, наадварот, павялічылася. У 2011 годзе 49% літоўцаў і 53% палякаў лічылі сяброўства ў ЕС добрай з'явай (у 2004 г. — 69% і 50% адпаведна). Імідж ЕС ацэньваюць як даволі пазітыўны і вельмі пазітыўны — у 2013 годзе 38% літоўцаў і 43% палякаў (у 2004 г. — 60% і 46%). Агулам у 2013 годзе еўрааптымістаў было 64% і 63% адпаведна, а песімістаў — 31% і 29%.

## Відавочныя тэндэнцыі

Сяброўства ў ЕС не з'яўляецца панацэяй ад усяго. У Літве і ў Польшчы можна сустрэць асоб, якія не падтрымліваюць сяброўства ў ЕС. Уступленне ў ЕС стварыла феномен працоўнай міграцыі: заўважная частка насельніцтва краіны выехала працаваць у Вялікабрытанію, Ірландыю, Іспанію, скандынаўскія краіны. Гэта можа быць праблемай для дэмаграфічнай сітуацыі, **аднак гэта варта разглядаць з пункту гледжання свабоды выбару чалавека і магчымасці рэалізаваць гэты выбар.** Важна, што такія асобы працуюць у краінах ЕС легальна, маюць сацыяльныя гарантыі і роўныя правы з іншымі грамадзянамі ЕС. З эканамічнага пункту гледжання гэта істотна павялічвае прыток замежнай валюты ў краіну праз замежныя пералікі. Больш за тое, цяпер назіраецца іншая тэндэнцыя, асабліва заўважная ў Польшчы. Ужо на восьмым годзе сяброўства зменшылася колькасць асоб, якія выязджалі на працу за мяжу, і павялічылася колькасць тых, хто вярнуўся ў краіну.

У абедзвюх краінах ёсць таксама незадаволеныя асобныя групы, такія як радыкальныя нацыяналісты, якія не падтрымліваюць дэвіз аб'яднанай Еўропы "Адзінства ў разнастайнасці".

Ідэя ЕС можа таксама быць не да канца зразумелай старэйшаму пакаленню — людзям, большая частка жыцця якіх прайшла ў іншым саюзе. Ёсць спробы правесці паралелі між ЕС і СССР, якія даволі няўдалыя, бо Брусель занадта адрозніваецца ад савецкай Масквы. Незадаволенасць старэйшага пакалення больш звязана не з ЕС, а з чаканнямі, якія не спраўдзіліся. Пасля таго як Літва атрымала незалежнасць, з'явілася такое выказванне: "Праз пяць год мы будзем жыць, як у Швецыі". Палякі жадалі жыць, як у Нямеччыне. Трэба прызнаць, што Літва і Польшча пакуль не дасягнулі шведскіх і нямецкіх стандартаў дабрабыту, але ж і Швецыя, і Нямеччына ішлі да гэтага не 10 (ці нават 20) год, а стагоддзямі.

На сённяшні дзень, калі б літоўцам і палякам прыйшлося зноўку прымаць рашэнне пра сяброўства ў ЕС, большасць людзей, як і 10 год таму, прагаласавалі б за ЕС. І яны зрабілі б гэта ў многіх адносінах з большай упэўненасцю і рацыяналізмам.

*(Працяг у наступным нумары.)*

ПРЫЗНАЧЭННЕ

# Уладзімір КРЫКУНОЎ: «Я не чараўнік, а проста трэнер»

*Учора федэрацыя хакея Беларусі падпісала працоўны кантракт з новым галоўным трэнерам зборнай краіны. Ім стаў 64-гадовы Уладзімір Крыкуноў. Заробак новага "рулявога" зборнай складзе 200 тысяч еўра ў год (10 працоўных месяцаў).*



Менавіта з імем гэтага спецыяліста звязаны самы гучны поспех у гісторыі хакея незалежнай Беларусі — 12 гадоў таму на Алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці беларуская зборная заняла чацвёртае месца.

Перад падпісаннем пагаднення з **Уладзімірам Крыкуновым** старшыня федэрацыі хакея краіны **Яўген Ворсін** паведаміў, што акрамя Уладзіміра Васільевіча на пост галоўнага трэнера зборнай разглядаліся і іншыя кандыдатуры.

— Мы разглядалі таксама кандыдатуры **Эдуарда Занкаўца**, **Андрэя Скабелкі**, **Любаміра Покавіча**, — сказаў ён. — Па розных прычынах мы атрымалі ад іх адмовы, бо гэтыя людзі звязваюць сваю далейшую трэнерскую кар'еру з камандамі Кантынентальнай хакейнай лігі, таму са зборнай працаваць не змогуць. Але я не хачу сказаць, што кандыдатура Уладзіміра Крыкунова была адной з апошніх. Наадварот, з яго імем мы звязвалі вялікія спадзяванні.

Перамоўны працэс складаўся няпроста, бо Крыкуноў з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам ніжнекамскага "Нафтахіміка", яму быў патрэбны час, каб дамовіцца з кіраўніцтвам расійскай каманды. Але радавала тое, што сам Крыкуноў быў настроены працаваць з нашай зборнай.

Прызначэнне Уладзіміра Крыкунова на пост галоўнага трэнера — вынік калектыўнага выбару, які быў зроблены спецыяльна скліканым саветам, у склад якога ўвайшлі 19 трэнераў, што працуюць з беларускімі зборнымі і клубамі. Крыкунова абралі амаль аднагалосна. Супраць яго кандыдатуры прагаласаваў толькі адзін чалавек. Але, хоць забіце мяне, я не помню, хто канкрэтна...

Чуткі пра магчымае вяртанне Крыкунова на пасаду галоўнага трэнера распаўсюдзіліся крыху раней, таму журналісты паспелі назваць гэта прызначэнне знакавым, а самога Крыкунова — "чараўніком", памятаючы алімпійскі поспех зборнай у 2002 годзе. Але сам трэнер куды больш сціплы ў ацэнках.

— Я не чараўнік, а проста трэнер. Падпісаць кантракт не праблема, праблемы пачнуцца потым. Прызнаюся вам, што праца са зборнай Беларусі стане для мяне апошняй трэнерскай працай. Гэта сімвалічна, бо менавіта ў Беларусі я распачынаў трэнерскую кар'еру, тут яе і закончу.

Кантракт з Уладзімірам Крыкуновым падпісаны па схеме 2+2. Гэта значыць, што пры ўмове выхаду беларускай зборнай на наступную Алімпіяду, якая пройдзе ў 2018 годзе ў Паўднёвай Карэі, Уладзімір Крыкуноў будзе знаходзіцца на сваёй пасадзе чатыры гады.

Былі агучаны і некаторыя іншыя пункты пагаднення паміж Федэрацыяй хакея і новым галоўным трэнерам. Так, за год (10 працоўных месяцай) Уладзімір Крыкуноў будзе атрымліваць 200.000 еўра. Таксама федэрацыя выставіла патрабаванне: Крыкуноў павінен знаходзіцца ў Беларусі не менш за 200 дзён у год.

Аднак, нягледзячы на гэта, Уладзімір Васільевіч не збіраецца стала "пускаць карані ў Беларусі".

— Перавозіць сюды сям'ю, родных не збіраюся, — прызнаўся Крыкуноў. — Не зрабіў гэта, калі ўпершыню працаваў з беларускай зборнай, не буду рабіць гэта і зараз. У мяне ёсць дом у Маскве, нерухомасць у Рызе, а тут я буду жыць у кватэры, якую арандуе федэрацыя.

Пакуль новы галоўны трэнер не вызначыўся з людзьмі, якія стануць яго асістэнтамі ў штабе галоўнай каманды. Але ён не выключае, што гэта будуць у тым ліку і трэнеры, якія працуюць ва ўнутраным першынстве.

Зразумела, Крыкуноў гаворыць пра тое, што паспрабуе дабіцца з нашай зборнай добрых вынікаў. У сваёй працы Уладзімір Васільевіч паабяцаў абапірацца на беларусаў, якія выступаюць у КХЛ, а таксама пастаянна "маніторыць" узровень гульнявога майстэрства хакеістаў, якія гуляюць ва ўнутраным першынстве.

Што тычыцца "асіміляцыі" хакейных легіянераў, якім выдалі беларускія пашпарты, то Крыкуноў адзначыў:

— Гэта сусветная практыка. Да паслуг легіянераў звяртаюцца паўсюдна, аднак я за тое, каб у Беларусі выраслі свае хакеісты ўзроўню зборнай. У краіне дзесяць каманд, а значыць, дзесяць школ. Умовы для выхавання спартсменаў ёсць. Легіянер, які б ён ні быў цудоўны, не павінен рабіць надвор'я, абапірацца трэба на сваіх.

Дарэчы, працаваць на пасадзе галоўнага трэнера зборнай Крыкуноў будзе пры новым старшыні федэрацыі. Цяперашні старшыня Яўген Ворсін учора ў чарговы раз пацвердзіў свой намер пакінуць пасаду. Хто яго зменіць, можа быць вырашана 22 кастрычніка на чарговай справаздачна-выбарчай канферэнцыі БФХ.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

БАСКЕТБОЛ

# Уладзімір Шамко паабяцаў асабіста балець за беларусак

*З 27 верасня па 5 кастрычніка ў Турцыі пройдзе чэмпіянат свету па баскетболе сярод жаночых каманд. Удзел у спаборніцтвах возьмуць прадстаўніцы 16 краін, сярод якіх і зборная Беларусі пад кіраўніцтвам літоўскага спецыяліста* ***Рымантаса Грыгаса.***

На папярэднім этапе беларускія баскетбалісткі трапілі ў групу C разам з камандамі Паўднёвай Карэі, Кубы і Аўстраліі.

Гульні першынства пройдуць у двух турэцкіх гарадах — Стамбуле і Анкары. Матчы пройдуць на трох арэнах — "Анкара", "Абдзі-Іпекчы" і "Уолкер-Спортс".

Гульні папярэдняга этапа беларускія дзяўчаты правядуць у Стамбуле на арэне "Абдзі-Іпекчы".

Першы матч беларускі згуляюць 27 верасня супраць каманды Паўднёвай Карэі. Прамая трансляцыя гэтага матча распачнецца ў 16.25 на тэлеканале "Беларусь 2".

Наступнымі саперніцамі нашых зямлячак стануць кубінкі. Гэтая сустрэча пройдзе 28 верасня. Яе прамая трансляцыя распачнецца ў 19.10 на "Беларусь 2".

Заключную сустрэчу групавога раунда беларускі правядуць 30 верасня супраць зборнай Аўстраліі. Яе пачатак — ізноў-такі ў прамым эфіры "Беларусь 2" у 16.25.

Згодна з рэгламентам спаборніцтваў, каманда, якая фінішуе ў сваёй групе апошняй, пакіне чэмпіянат свету. Пераможцы групавых спаборніцтваў адразу трапляюць у чвэрцьфінал, а зборныя, якія зоймуць у сваіх групах другое і трэцяе месцы, згуляюць у 1/8 фіналу.

Напярэдадні чэмпіянату свету былі арганізаваны ўрачыстыя провады беларускай зборнай на першынство. Дзяўчат свадзілі ў новы Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Затым адбылася цырымонія ўскладання кветак да стэлы "Мінск — горад-герой".

Была таксама і пратакольная частка мерапрыемства, на якой міністр спорту і турызму Беларусі Уладзімір Шамко паабяцаў дзяўчатам асабіста сачыць за кожнай іх гульнёй у Турцыі і балець за каманду, а нядаўна прызначаны на пост кіраўніка Беларускай федэрацыі баскетбола Максім Рыжанкоў запэўніў нашых зборніц, што *"перад будучымі спартыўнымі стартамі і федэрацыя баскетбола, і Міністэрства спорту, і Нацыянальны алімпійскі камітэт краіны зробяць усё магчымае дзеля стварэння добрых умоў для трэніровак, падрыхтоўкі да спаборніцтваў і аднаўлення"*.




Што называецца, пажывём — паглядзім. А пакуль балеем за нашых!

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ФОТОАЛЬБОМ

# В советские времена фотографы снимали обнаженку, сегодня — свадьбы и городские пейзажи

*В век смартфонов каждый считает себя фотографом, и снимки из социальных сетей, да еще обработанные инстаграмом, подтверждают это лучше всяких слов. Нужны ли фотографы, когда смартфоны есть даже у детей?*

*Этот вопрос "Народная Воля" обсудила с фотографом* ***Геннадием Карчевским,*** *который привез в народный фотоклуб "Минск" немного своего родного города — Могилева.*



На снимках, вывешенных в просторной комнате, — дома, автомобили и лужи, в которых они отражаются. А еще — люди. Старые и молодые, влюбленные и одинокие. Сегодня это просто жители любимого города. Пробуя и экспериментируя в начале карьеры, дизайнер Карчевский освоил самый дерзкий жанр постсоветской фотографии — "ню". Или, как говорят некоторые, — обнаженку.

— Закончив Театрально-художественный институт по специальности "дизайн", вернулся в Могилев, откуда родом, — *рассказывает Геннадий.* — Фотография была основой работы, состоявшей в рекламе печатной продукции. Основным заказчиком был производитель текстиля "Мегатек". А чтобы показать ткани, нужны модели.

**— Вот именно моделей и ставят во главу угла многие фотографы с одной оговоркой — они должны быть раздеты…**

— И я делал такие снимки. В рекламе даже во времена развала СССР это было невозможно. Зато после съемок для "Мегатека" девочки могли с удовольствием обнажиться перед камерой — в студии и у меня дома. Это было интересно. Да и жанр "ню" тогда считался самым престижным.

**— …и опасным, ведь фотографии с обнаженным женским телом могли посчитать даже распространением порнографии …**

— Нет, что вы! Разве что однажды, лет 10 назад, работы с обнаженными, задрапированными в ткани моделями отказались выставлять в Музее современного искусства. Для фото использовал коллекцию тряпок-драпировок, из которых вытягивается волокно. Висит на девушке что-то рваное, лохматое, а оттуда сосок выглядывает или еще какая часть тела. Такие кадры интригуют куда больше обнаженного тела. Мои работы называли откровенными.

**— Если снимать обнаженных женщин считалось престижно, значит, этим занимались все фотографы?**

— Нет, многие боялись даже прикоснуться к этой теме, которая во времена развала Союза считалась сложной. А вот в советское время пришлось оказаться в одном российском городе, кажется, Йошкар-Оле, где в кабинете главного коммуниста — председателя парткома устроил фотосессию обнаженных девочек. Делали это с разрешения хозяина кабинета, который ретировался. А девочки — были. На декоративном столике с изогнутыми ножками, диванчике. Такой была моя первая "обнаженная" сессия.

В настоящее время обнаженных моделей не снимаю — трудно уговорить. Появилось больше подзаконных актов, без скандала работы уже не выставишь. А раньше договориться с моделью было легко. Нередко приходили случайные девушки, с которыми получались куда более интересные работы, чем с "дрессированными" моделями.

**— Неужели вы подходили на улице и спрашивали: *"Разденешься на камеру?"*?**

— Нет, обычно искали меня. Помню, одна из девушек приехала из Светлогорска. При невероятно красивой фигуре у нее было совершенно невыразительное лицо. Я его закрыл мокрыми волосами, работа получилась — вызывает эмоции.

**— А мужчин обнаженных снимали?**

— Снимал. Пригласил как-то раз парня с девушкой, попросив разрешения сфотографировать в соприкосновениях. Девушка никогда не была моделью и никогда не позировала фотографу, но вела себя раскованно, просто чудо! Портрет получился лучший из всех, что есть. Помню, была импровизация: опутал тела веревкой и попросил пару медленно двигаться. Драпировки, тянущиеся нити — получилась красивая абстрактная работа. Мне нравится экспериментировать.

**— Сегодня вы делаете снимки Могилева. Как признались в начале знакомства, ни к какому другому городу не испытываете больше таких чувств. Почему?**

— Мне интересно здесь. В Могилеве чувствую себя иначе, сопереживаю. Хожу по улицам, начинаю разговаривать с людьми, вызываю у них эмоции и — частенько шпионю. Они даже не понимают, что я их фотографирую, — снимаю навскидку, с живота. Получается здорово!

**— В ряде городов Европы туристов предупреждают: фотосъемка людей — исключительно с их разрешения. Доходит до курьезов: человек фотографирует в Лондоне Биг-Бен, как вдруг какой-то мужчина запрещает съемку, потому что в кадр попал его ребенок. Случалось ли такое у вас и каким законам подчиняются фотографы в Беларуси?**

— Случалось. Однажды семейная пара с ребенком так возмущалась, что снимки пришлось удалить. Мы действительно не имеем права снимать человека против его воли.

**— Даже если речь идет о фотографии в общественном месте, а не, скажем, в кафе?**

— К местам вроде летних кафе боюсь даже подходить, хотя никто не гонит, просто чувствую, что не могу снимать и все. Поэтому в некоторых ситуациях снимаю широкоугольником с живота, поучается неплохо.

Недавно приехал из Киева, где таких проблем не возникало — снимал всё и всех. Только представьте: выходишь рано утром, поднимается солнце, в тумане возникают силуэты людей. Ты понимаешь, где именно на фотографии должна остаться фигура, и ждешь, когда сделать кадр. Несколько снимков опубликовал на "Фейсбуке".

**— …где появляются тысячи снимков от обладателей смартфонов! Чем же они отличаются от ваших?**

— Если талантливо сняты, то ничем. Важна картинка, сюжет. Если, к примеру, говорить о горячих точках, неважно, что в руках у фотографа. Сам, оказавшись в Москве во времена путча, снимал мыльницей — баррикады, танки, детей на танках.

**— Нужны ли в век смартфонов и компакт-камер фотографы?**

— Хотя из горячей точки сгодится любое изображение, есть творческая съемка, для которой важна школа. Такие творческие фотографии рождаются в душе и часто не только не кормят, но и слегка разоряют. Но ты испытываешь упоение.

**— Фотография превращается в хобби?**

— Это творчество. С помощью фотоаппарата можно без фотошопа имитировать гравюру, акварельный рисунок: водишь на длинной выдержке фотоаппаратом — и что-то получается четким, а что-то — размытым. Смартфоном такого не сделаешь — выдержки нет.

Я люблю эксперименты — с длинной выдержкой, с моноклем вместо объектива. Картинка получается размытая и необычная: все, что яркое, начинает светиться, а все, что темное, проваливается. Необычность завораживает.

**— Говорят, человек счастлив, когда зарабатывает любимым делом…**

— Я и зарабатывал, когда работал с моделями. Сейчас такой работы нет, фотография денег не приносит. Пока.

**— А как же свадьбы, на которых иные фотографы сколачивают состояние?**

— Мне пришлось как-то снимать свадьбы знакомых и родственников — не за деньги. Удовольствия не получил, а без него работать невозможно.

**— Покупают ли люди такие фотографии, которые вы привезли сегодня на выставку?**

— Для интерьера покупали пейзажи Могилева. Жанровые фото, которые тоже присутствуют на выставке, специфичны, мало кто в них разбирается. Покупатели выбирают цветные, а не черно-белые фотографии. Между тем в черно-белых остается суть. Бывает, вроде сделал хорошее цветное фото, а потом убираешь цвет — и в нем ничего не остается. Получается, глаз веселили только краски. Именно поэтому большинство снимков перевожу в черно-белые. Разве что туманы у меня цветные.

**Елена АНКУДО.**



ЗА РУЛЕМ!

# Как правильно купить машину в России

*Сейчас белорусы все чаще приобретают автомобили в России, однако не все знают, как правильно оформить покупку легковых автомобилей у граждан Российской Федерации и ввоз машины на территорию Беларуси. На наиболее популярные вопросы, касающиеся данной темы, на interfax.by ответила адвокат, член Витебской областной коллегии адвокатов Марина Чистякова*



## Снятие автомобиля с учета в России

Перед вывозом автомобиля за пределы Российской Федерации на постоянное пребывание он должен быть снят с учета. Паспорт машины (при его наличии), а также регистрационные знаки сдаются в регистрационное подразделение, взамен которых выдаются регистрационные знаки "ТРАНЗИТ". На внутренней стороне свидетельства о регистрации машины делается отметка о снятии ее с учета и выдаче регистрационных знаков "ТРАНЗИТ", а также запись "Убытие за пределы Российской Федерации", которые заверяет подписью и печатью сотрудник регистрационного подразделения. Если свидетельство о регистрации транспортного средства отсутствует, выдается новое.

## Заключение договора купли-продажи автомобиля

Для государственной регистрации машины на территории Беларуси граждане должны представить в территориальные регистрационные подразделения ГАИ документы, подтверждающие законность приобретения (получения) автомобиля.

В случае покупки транспортного средства таким документом является заключенный между гражданином России (продавцом) и гражданином Беларуси (покупателем) договор купли-продажи транспортного средства, в котором должны содержаться следующие сведения:

* дата и место его составления,
* фамилия, имя, отчество (при наличии), адрес места жительства, паспортные данные продавца и покупателя,
* предмет и условия договора,
* стоимость транспортного средства (при наличии),
* идентификационные данные транспортного средства,
* серия, номер, дата выдачи паспорта транспортного средства и (или) регистрационного документа и (или) регистрационного знака (при их наличии),
* подписи сторон.

Данный договор заключается на территории России в простой письменной форме. По соглашению сторон его можно нотариально удостоверить в России.

Договор не нужно регистрировать на территории Беларуси в регистрационных подразделениях ГАИ.

Купить и ввезти автомобиль может как сам собственник (гражданин Беларуси) лично, так и иное физическое лицом по поручению собственника. Для этого будущий собственник (доверитель) должен оформить на территории Беларуси на поверенного нотариально заверенную доверенность на право приобретения транспортного средства и совершения действий, связанных с его ввозом.

Поверенный должен помнить, что систематическое оказание услуг по покупке и ввозу транспортных средств на возмездной основе (за вознаграждение) по поручению граждан Беларуси от их имени и за их счет, не выезжающих для их приобретения за пределы республики, является предпринимательской деятельностью, которая должна осуществляться в порядке, предусмотренном законодательством Беларуси.

Если собственник или доверенное лицо, купившие в России машину и ввезшие ее на территорию Беларуси, по каким-то причинам забыли оформить договор купли-продажи, не нужно обращаться к юридическим лицам за получением счет-справки на автомобиль, так как действия, связанные с покупкой машины и ее ввозом, совершены гражданином Беларуси.

Забывчивому собственнику (или его доверенному лицу) нужно вернуться в Россию к продавцу автомобиля, чтобы подписать договор купли-продажи, или подписать его, направив документ продавцу машины по почте.

## Заключение договора обязательного страхования

Договор страхования "Зеленая карта", заключенный владельцем транспортного средства — резидентом Беларуси со страховой организацией государства — члена системы "Зеленая карта" в отношении приобретенного за пределами республики транспортного средства, действителен на территории Беларуси до госрегистрации машины в ГАИ.

Договор внутреннего страхования заключается с владельцем — резидентом или нерезидентом Беларуси, временно находящимся на территории республики, по всем транспортным средствам, используемым в дорожном движении в Беларуси.

Договор страхования "Зеленая карта" может заключить как сам собственник автомобиля на территории России, лично ввозящий автомобиль в Беларусь, так и его доверенное лицо, действующее на основании доверенности.

## Уплата утилизационного сбора

Утилизационный сбор в Беларуси уплачивается по базовым ставкам и коэффициентам, применяемым к ним, однократно за каждое транспортное средство: ввезенное с территорий государств — членов Таможенного союза и подлежащее государственной регистрации.

Плательщиками утилизационного сбора признаются юридические и физические лица, включая ИП.

В таможенный орган, уполномоченный Государственным таможенным комитетом Республики Беларусь, гражданин Беларуси должен подать расчет утилизационного сбора. Помощь в составлении расчета утилизационного сбора могут оказать таможенные представители, реестр которых можно найти на сайте Государственного таможенного комитета Республики Беларусь.

Утилизационный сбор уплачивается до государственной регистрации транспортного средства в регистрационных подразделениях ГАИ.

## Госрегистрация машины в Беларуси

Собственник автомобиля представляет его в регистрационные подразделения для регистрации в течение 10 дней со дня приобретения, если в отношении машины не требуется совершать таможенные операции.

Днем приобретения транспортного средства считается дата заключения договора купли-продажи автомобиля.

